ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 35 (1569) | Пятніца, 5 мая 1961 года | Цана 4 кап.



**1 МАЯ 1961 ГОДА**

**На гэтых здымках — калоны дэманстрантаў на Краснай плошчы ў Маскве (злева) і ў Мінску. Радасныя, шчаслівыя твары людзей. Народ дэманструе сваё непарушнае адзінства, сваю гарачую адданасць справе камунізма, сваю ўпэўненасць у будучыні.**

**Фота В. Кунава (ТАСС) і Ул. Крука.**



# Палымянае слова

Ідзе вясна па савецкай зямлі. Абуджаецца прырода, зелянее рунь калгасных палёў, зацвітаюць сады.

У гэтую незабыўную веснавую пару, пару напружанай працы як у горадзе, так і на вёсцы, савецкія людзі ўрачыста адзначаюць Дзень друку, дзень, калі нарадзілася старэйшая бальшавіцкая газета «Праўда», ля калыскі якой стаяў правадыр сусветнага пралетарыяту Уладзімір Ільіч Ленін.

У змрочныя гады панавання царызму нараджэнне рабочай газеты «Праўда» азначала вялікую перамогу расійскага пралетарыяту, рост яго палітычнай самасвядомасці. І як ні праследавалі царскія паслугачы ленінскую «Праўду», нічога яны не маглі зрабіць, бо праўду, як і сонца, нельга пасадзіць за краты, закаваць у кайданы. І несла рабочая газета ў гушчы народныя ленінскія ідэі, абуджала народ да барацьбы, гартавала яго волю, самасвядомасць, рыхтавала да рашучых баёў з капіталістамі і памешчыкамі.

З таго часу мінула амаль паўстагоддзя — 49 год. Але якіх год! Збыліся ленінскія мары: былая адсталая, непісьменная Расія стала на чале прагрэсу чалавецтва. Цяпер да нас прыязджаюць прадстаўнікі іншых краін, каб павучыцца, як будаваць новае жыццё, як узнімаць эканоміку і культуру. І мы ахвотна прымаем на сваёй зямлі замежных гасцей, паказваем ім нашы фабрыкі і заводы, калгасы і саўгасы, інстытуты, бальніцы, школы, палацы культуры. Вучыцеся, дарагія сябры!

Мы, савецкія людзі, сапраўдныя кавалі свайго шчасця. Мы заняты мірнай стваральнай працай: будуем гарады і сёлы, сеем збажыну, робім станкі і машыны, здабываем вугаль і нафту, плавім сталь. Перад намі вялікая ўзнёслая мэта — будаўніцтва самага справядлівага ладу на зямлі — камуністычнага грамадства. У гэтай нялёгкай тытанічнай працы вялікую дапамогу аказвае партыі і народу наш бальшавіцкі друк, нашы газеты і часопісы. Запавет Леніна аб тым, што газета павінна быць калектыўным прапагандыстам, агітатарам і арганізатарам мас, савецкія журналісты свята захоўваюць.

У Савецкай краіне вялікая ўвага аддаецца развіццю друку. Акрамя цэнтральных, рэспубліканскіх, краявых, абласных і раённых газет, тыражы якіх з кожным годам растуць, на многіх прадпрыемствах, у калгасах, інстытутах выдаюцца шматтыражныя газеты.

Небывалы размах набыла кнігавыдавецкая справа.

У прывітанні Першаму усесаюзнаму з'езду савецкіх журналістаў ЦК КПСС адзначаў: «У нашай краіне друк стаў неад'емнай часткай духоўнага жыцця народа, а савецкая журналістыка — важнейшай галіной партыйнай і грамадскай дзейнасці». Тады ж, у час з'езду, на прыёме журналістаў у Крамлі М. С. Хрушчоў гаварыў: «... Вы, журналісты, не толькі верныя памочнікі, а літаральна падручныя нашай партыі — актыўныя байцы за яе вялікую справу».

Быць верным памочнікам партыі, яе падручным — значыць, быць заўсёды і ўсюды палымяным прапагандыстам яе ідэй, яе велічных задум і планаў. Якія грандыёзныя перспектывы адкрываюць перад савецкім народам сямігадовы план, рашэнні студзеньскага Пленума ЦК КПСС! Дык будзем жа пісаць пра нашу светлую будучыню — камунізм — такімі словамі, каб яны захапілі кожнага савецкага чалавека, выклікалі ў яго жаданне працаваць, пераадольваць цяжкасці, нястомна ісці наперад.

Савецкі журналіст абавязаны заўсёды жыць жыццём народа, ведаць, што яго хвалюе, радуе, непакоіць, актыўна ўмешвацца ў жыццё, пільна сачыць за яго зменамі, прыкмячаць нараджэнне новага, перадавога і палымяна, страсна пра ўсё гэта пісаць.

Калісьці Маякоўскі сказаў: «Я хочу, чтоб к штыку приравняли перо». І нам, савецкім журналістам, трэба браць раўненне на паэта-трыбуна, на паэта-патрыёта. Няхай наша вострае пяро заўсёды насмерць б'е старое, аджылае, шкоднае. Будзем нястомнымі ў пошуках свежых фарбаў і палымяных слоў, калі мы садзімся пісаць пра нашых сучаснікаў — членаў брыгад і ўдарнікаў камуністычнай працы, смелых разведчыкаў будучыні. Ганаровы абавязак журналіста — паказваць хараство душы савецкага чалавека, яго самаадданую працу, яго жыццярадаснасць і няўтольную прагу да ведаў.

Трэба, каб са старонак нашых газет і часопісаў, кніг і брашур не сыходзілі тэмы камуністычнага будаўніцтва, тэмы камуністычнага выхавання савецкіх людзей, людзей з высокімі маральнымі якасцямі.

Савецкі друк — друк новага тыпу. Яго адметная рыса — праўдзівасць і сумленнасць. Сіла савецкага друку ў тым, што ён адлюстроўвае інтарэсы шырокіх народных мас, інтарэсы будаўнікоў камуністычнага грамадства. Нашы газеты і часопісы з'яўляюцца выказнікамі дум і спадзяванняў народа, той сапраўднай трыбунай, з якой на ўвесь свет разносіцца ленінская праўда.

Цяпер усе бачаць, што Савецкая дзяржава і ўсе краіны сацыялістычнага лагера ідуць па шляху няўхільнага развіцця, росквіту і ўмацавання сваёй эканомікі і культуры. І нават ворагі нашы, сцяўшы зубы, вымушаны прызнаць, што няма больш адсталай лапцюжнай Расіі, ёсць краіна Саветаў, якая ўскалыхнула ўвесь свет сваім нечуваным подзвігам— палётам савецкага чалавека ў космас, ёсць магутная Савецкая дзяржава, той горды маяк, які асвятляе шлях да новага жыцця ўсім прыгнечаным і заняволеным народам нашай планеты.

Дзень друку не толькі свята, але і дзень агляду таго, што намі зроблена, агляду творчых поспехаў савецкіх журналістаў. А яны ў нас немалыя. Сведчанне гэтага — прысуджэнне Ленінскіх прэмій за лепшыя працы ў галіне публіцыстыкі і журналістыкі.

Калі мы, журналісты, хочам заўсёды ісці ў нагу з жыццём, мы не павінны ні на хвіліну заспакойвацца на дасягнутым, а настойліва вучыцца, удасканальваць сваё майстэрства, адточваць сваё пяро. Заўсёды нас павінен акрыляць вобраз Леніна, вялікага правадыра чалавецтва, чулага і ўмелага рэдактара, вобраз чалавека, які так многа і настойліва вучыўся і працаваў.

У пастанове ЦК КПСС «Аб задачах партыйнай прапаганды ў сучасных умовах» гаворыцца аб тым, што неабходна павысіць ролю друку ў камуністычным выхаванні народа. Для гэтага трэба, каб нашы газеты і часопісы смялей ставілі, распрацоўвалі і прапагандавалі актуальныя палітычныя, гаспадарчыя, ідэалагічныя і маральна-этычныя праблемы. Газеты і часопісы абавязаны стаць баявой трыбунай перадавога вопыту, канкрэтна і дзейна дапамагаць партыі ў вырашэнні надзённых задач камуністычнага будаўніцтва і выхавання працоўных.

Савецкі народ рыхтуецца да XXII з'езду роднай Камуністычнай партыі. І задача журналістаў у барацьбе за перамогу камунізма ісці заўсёды наперадзе, ярка і ўзнёсла паказваць на старонках газет і часопісаў працоўны энтузіязм народа, яго гарачае жаданне справамі адказаць на клопаты нашай партыі аб тым, каб усе савецкія людзі жылі яшчэ лепш, багацей і культурней.

# ПЕСНІ ПЕРШАМАЯ

**Раніцу абудзілі песні, звонкі гоман людзей.**

**Над Мінскам вісела пахмурнае неба, імжыў дробны дожджык, часам ён спрабаваў і спорна сыпануць.**

**А людзі ішлі, збіраліся ў калоны, не хочучы зважаць на надвор'е. На Цэнтральнай плошчы, на праспекце выстрайваліся войскі гарнізона. З рэпрадуктараў лілася бадзёрая музыка. Трапятала чырвань сцягоў і транспарантаў. Святочна аздоблены горад хваляваў і вабіў. Ён быццам спяваў разам з людзьмі, спяваў аб сваёй маладосці, аб хараstве сваіх гмахаў і шырокіх вуліц, паркаў і прасторных плошчаў. Так, прыгожы, цудоўны наш Мінск. І ў гэтую першамайскую раніцу з асаблівай радасцю думалася аб вялікай сіле савецкага ладу, аб працавітых людзях, чыімі рукамі за кароткі час быў узняты з руін вайны наш родны горад...**

**Радыё данесла голас Масквы, Краснай плошчы. Там першамайскія ўрачыстасці пачаліся раней, і мільёны савецкіх людзей ва ўсіх кутках краіны з хваляваннем слухалі голас вялікай сталіцы.**

**Масква, сэрца краіны, што ў незабыўным Кастрычніку 1917 года адкрыла новы свет, свет камунізма; сталіца магутнай сацыялістычнай дзяржавы, якая з'яўляецца сцяганосцам і змагаром за мір і дружбу паміж народамі. Напэўна, ні аб адным горадзе свету не складзена столькі песень, як аб Маскве. Веліч Масквы — гэта веліч савецкага народа, які пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі за гістарычна кароткі тэрмін пераўтварыў раней адсталую краіну, узняў яе эканоміку і культуру на небывалую вышыню.**

**І, слухаючы радыёперадачу з Масквы, кожнаму савецкаму чалавеку радасна было ўяўляць лікуючае людское мора на Краснай плошчы; радасна было чуць гром апладысментаў і буру воклічаў, якімі сустрэта было з'яўленне кіраўнікоў Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада на Цэнтральнай трыбуне Маўзалея.**

**Б'юць Крамлёўскія куранты. Міністр абароны СССР Маршал Савецкага Саюза Р. Я. Маліноўскі аб'язджае войскі, затым выступае з прамовай. Ён гаворыць аб поспехах савецкіх людзей у будаўніцтве камунізма, аб палёце Юрыя Гагарына ў космас, аб велізарнай моцы Узброеных Сіл нашай краіны, якія надзейна ахоўваюць працу і мір народа.**

**Разам з масквічамі ўсе савецкія людзі апладзіруюць доблесным воінам, што стаяць на варце бяспекі нашай Радзімы.**

**10 гадзін 30 мінут. Пачынаецца ўрачыстасць і ў нас, у Мінску. На цэнтральную трыбуну падымаюцца кіраўнікі Кампартыі і ўрада Беларусі.**

**На трыбунах — перадавыя людзі заводаў і фабрык, партыйныя і савецкія работнікі, дзеячы навукі, літаратуры і мастацтва. Яны горача вітаюць воінаў Мінскага гарнізона, што выйшлі на парад. Грыміць медзь аркестраў. Бадзёра, чотка крочаць воіны. Імкліва праязджаюць артылерыйскія і мотападраздзяленні.**

**На Цэнтральную плошчу выходзяць калоны працоўных. Ідзе рабочы клас беларускай сталіцы, слаўны рабочы клас, стваральнік аўтамабіляў і станкоў, трактараў і аўтаматычных ліній, радыёпрыёмнікаў і тканін... Ды хіба можна пералічыць усё тое, што вырабляе сёння прамысловасць Мінска! Яе багатая, разнастайная прадукцыя вядома далёка за межамі рэспублікі.**

**Рабочы клас рапартуе аб сваіх поспехах у выкананні сямігодкі, аб сваім імкненні памнажаць гэтыя поспехі, дастойна сустрэць XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**Над калонамі — алыя сцягі, лозунгі, транспаранты з рапартамі працоўных перамог. Надвор'е палепшала, выйшла з-за воблакаў сонца, азарыла гэтае бясконцае шэсце людзей, і чырвань сцягоў і транспарантаў яшчэ больш ярка запалымнела.**

**Рабочыя рукі высока ўзнімаюць партрэты Маркса, Энгельса, Леніна, партрэты кіраўнікоў Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада. Над плошчай лунаюць першамайскія Заклікі ЦК КПСС, гучаць воклічы ў гонар роднай партыі, нашай любімай Радзімы.**

**Звініць, спявае шматгалосы, урачысты Першамай.**

**Плыве і плыве людскі паток — хваля за хваляй. Ідуць новыя і новыя калектывы прадпрыемстваў і ўстаноў, ідуць будаўнікі і вучоныя, работнікі культуры і студэнты, школьнікі і фізкультурнікі...**

**Народ дэманструе сваю згуртаванасць вакол роднай партыі, сваю адданасць справе камунізма.**

**Радасныя твары людзей, і ў гэтай радасці адлюстравана сонечнае святло нашай савецкай явы; у гэтай радасці — шчасце здабытых перамог і вера ў заўтрашні дзень, у будучыню.**

**Каля трох гадзін працягвалася святочнае шэсце працоўных беларускай сталіцы. Мнагалюдна было на вуліцах і плошчах увесь дзень і вечар. Адбыліся народныя гулянні, выступленні мастацкіх калектываў. А вечарам у веснавое мінскае неба ўзняліся каляровыя вясёлкі святочнага салюта.**

**Адзвінеў, адспяваў Першамай. Ён пакінуў у савецкіх людзей незабыўнае ўражанне.**

**Сёння зноў — натхнёныя працоўныя будні. Савецкія людзі самаадданa працуюць над ажыццяўленнем сямігодкі, працуюць у імя таго, каб і нашы будні і нашы святы былі заўсёды радасныя, шчаслівыя.**

# ЗА ІМІ СТАЯЦЬ МІЛЬЁНЫ



У слаўнай плеядзе лаўрэатаў Міжнародных Ленінскіх прэмій з'явіліся новыя імёны актыўных барацьбітоў за мір.

Пастановай Камітэта па Міжнародных Ленінскіх прэміях «За ўмацаванне міру паміж народамі» за выдатныя заслугі ў справе барацьбы за захаванне і ўмацаванне міру Ленінскія прэміі прысуджаны:

**Фідэлю Кастра Рус** — грамадскаму і дзяржаўнаму дзеячу (Рэспубліка Куба);

**Секу Турэ** — грамадскаму і дзяржаўнаму дзеячу (Гвінейская Рэспубліка);

**Рамешвары Неру** — грамадскай дзеячцы (Індыя);

**Міхаілу Садавяну**—пісьменніку, грамадскаму дзеячу (Румынская Народная Рэспубліка);

**Антуану Жоржу Табету** — архітэктару, грамадскаму дзеячу (Ліван);

**Астапу Длускаму** — грамадскаму дзеячу (Польская Народная Рэспубліка);

**Уільяму Мароу** — грамадскаму дзеячу (Аўстралія).



**Фідэль КАСТРА. — Я павінен падкрэсліць, што дасягнутыя нашым народам да гэтага часу поспехі былі б немагчымы без вялікай салідарнасці з намі ўсіх народаў свету, асабліва народаў сацыялістычных краін, якія разарвалі ланцугі эксплуатацыі чалавека чалавекам.**



**Секу ТУРЭ. — Прысуджэнне мне гэтай высокай узнагароды характарызуе якасць і сілу барацьбы гвінейскага народа за захаванне і ўмацаванне міру на асновах справядлівасці, роўнасці і супрацоўніцтва паміж краінамі.**



**Рамешвары НЕРУ. — Гэта гонар не толькі для мяне, а для ўсяго руху прыхільнікаў міру ў маёй краіне, для ўсяго індыйскага народа. Я клянуся, што рэшту майго жыцця прысвячу служэнню ідэалам міру.**

З БЛАКНОТА ЖУРНАЛІСТА

# ПРАСТОР НОВАМУ

Гэта было больш года назад. Старшыня калгаса «Савецкая Беларусь» Рэчыцкага раёна Пятро Паўлавіч Шклярэнка прымаў дэлегацыю з Бярэзінскага раёна. Людзі прыехалі сюды, каб павучыцца, пераняць новае, перадавое.

Гаспадар быў ветлівы. Ён нічога не ўтойваў. Такі ўжо звычай у савецкіх людзей: сам дасягнуў поспеху—зрабі яго здабыткам соцень і тысяч, перадай як эстафету.

Вечарэла. Старшыні калгасаў паглядалі на свае «газікі» і, мабыць, збіраліся паціснуць Шклярэнку руку на развітанне. Але гаспадар не спяшаўся.

— Ёсць у нас яшчэ адна навіна,— сказаў ён і паказаў у бок мураванага кароўніка.—Там мы гадуем цялят падсосна-групавым спосабам. — Шклярэнка пакрочыў да кароўніка, а за ім і госці.

— Добрыя цяляткі! — пахваліў адзін са старшынь, зайшоўшы ў памяшканне.

— За год адна карова выпайвае сваім малаком 10—12 цялят,—тлумачыць Пятро Паўлавіч. — Заўважце, што пры падсосна-групавым утрыманні мы не мелі ніводнага выпадку хваробы цялят.

— Кароў пэўна, падбіраеце малочных?—спытаў хтосьці з экскурсантаў.

— Так, падбіраем кароў з удоем не менш трох тысяч літраў малака за год.

Якія выгады маем? Пры падсосна-групавым спосабе менш траціцца працы і грошай на выпойку цялят; значыць, у калгасе ствараецца база для росту і развіцця прадуктыўнага малочнага статку. Пры гэтым спосабе цяляты хутчэй прывучаюцца да падкормкі. Ужо ў тры месяцы яны ядуць усе кармы і не патрабуюць малака. Гадоўля аднаго цяляці пад каровай-карміцелькай каштуе на 30—35 рублёў (у новых грошах) танней. Вось чаму трэба смялей укараняць гэты прагрэсіўны метад ва ўсіх калгасах і саўгасах.

Прызнаюся, што мяне даўно зацікавіла гэтае пытанне. Я не прамінаў выпадку, каб не наведваць калгас ці саўгас, дзе цялят гадуюць падсосна-групавым метадам.

А нядаўна я пабываў у калгасе «Савецкая Беларусь» Мастоўскага раёна. Я быў тут не аднойчы, і мне падабаецца гэтая гаспадарка. Тут умеюць працаваць з далёкім прыцэлам.

Павел Пятровіч Кандрацёнка прыйшоў кіраваць арцеллю з райсельгасінспекцыі. Ён заатэхнік. І гэта адчуваецца ў яго рабоце.

Мы гутарым з гэтым рухавым каржакаватым чалавекам. Нарэшце, я кажу:

— Пойдзем паглядзім вашых цялят-сысункоў.

Павел Пятровіч зрабіў выгляд, што не пачуў майго пытання. Калі ж просьба была паўторана, ён махнуў рукой і з нейкай крыўдай выціснуў скрозь зубы:

— Няма іх ужо ў нас.

— Чаму?

— Каровы псуюцца ад падсосу.

— А па праўдзе?—наступаў я, адчуўшы па голасу, што старшыня штосьці ўтойвае.

— Што ж, калі па праўдзе, то слухайце. Каму хочацца мець у гаспадарцы «кароў-дармаедак»? Мы б'ёмся за кожную кроплю малака, а яно тонамі знікае з нашага рахунку. Малако кароў-карміцелек ЦСУ не ўлічвае. Вось падлічыце. Нам штогод трэба мець мінімум 40 кароў-карміцелек. Няхай кожная з іх дасць тры тысячы літраў малака. Гэта будзе 120 тон. А яго ніхто не ўлічыць. Мы карову кормім, поім, а яна ў нас за быка ходзіць.—Павел Пятровіч крыху памаўчаў, а затым закругліў: —Дзівакі! Хіба ж можна вырасціць цяля без малака? Не паветрам жа яно сыта.

Мяне моцна ўсхвалявала падобнае становішча спраў. Хацелася даведацца, а што цяпер чуваць у рэчыцкім калгасе. Прыехаўшы ў Мінск, я пазваніў туды.

— Ля тэлефона Шклярэнка,—пачулася з Рэчыцы.

— Колькі ў вас гадуецца цялят падсосна-групавым спосабам?

— Ніводнага.

— Чаму?

— Не хочам мець кароў-дармаедак.

А ў рэспубліканскім ЦСУ пацвердзілі:

— Так, малако ад кароў-карміцелек мы не ўлічваем. Гэта прадугледжана інструкцыяй.

Нічога не скажаш, ёсць такая інструкцыя. Але ж яна стала ўпоперак дарогі перадавому метаду гадоўлі цялят. А ці можна зрабіць інакш? Можна і вельмі проста. Удой каровы-карміцелькі можна ўзяць за папярэдні год або вызначыць па кантрольных дойках. Гэта мог бы зрабіць прадстаўнік ЦСУ сумесна са спецыялістам сельскай гаспадаркі. Я прывёў дзве канкрэтныя гаспадаркі, дзе па сутнасці адмовіліся ад новага і перадавога метаду гадоўлі маладняку. Такіх гаспадарак шмат на Магілёўшчыне, Віцебшчыне, Гомельшчыне і ў іншых абласцях рэспублікі.

Жыццё імкліва бяжыць уперад. Кожны дзень загараюцца новыя маякі. Кожны дзень прыносіць радасныя змены, і толькі інструкцыі часам застаюцца старымі.

Мы не супраць інструкцый наогул. Яны патрэбны. Але ж стваральнікі іх павінны прыглядацца да жыцця. Калі інструкцыя прыйшла ў непрымірымую супярэчнасць з новым і перадавым, стала тормазам руху наперад, яе трэба замяніць новай. Так абстаіць справа і з інструкцыяй ЦСУ аб уліку малака ад кароў-карміцелек.

* * *

Яшчэ адна старонка запісной кніжкі, і ў памяці ўсплывае размова з дырэктарам саўгаса імя Леніна Смалявіцкага раёна Міхаілам Ніканавічам Зубко. Гаворка ішла аб механічным даенні кароў. Мой субяседнік расказаў:

— Некалькі год назад да мяне зайшла лепшая даярка саўгаса Антаніна Дзятко. Яна паклала на стол паперку і сказала: «Не магу больш даіць. Доктар кажа, што без рук застануся. Бачыце, якія яны ў мяне?»

— І вы задаволілі яе просьбу? — спытаў я ў старшыні.

— Так. Але хутка абсталявалі электрадаільную ўстаноўку, і Дзятко зноў вярнулася працаваць на ферму.

— Колькі кароў яна доіць цяпер?

— Пятнаццаць.

Добра, вельмі добра зрабілі ў саўгасе, што аблегчылі працу даярак. Але ці толькі гэтаму павінна служыць механічнае даенне? Чаму Антаніна Дзятко машынай доіць амаль столькі ж кароў, колькі яна даіла рукамі?

З такім пытаннем мне не аднойчы даводзілася звяртацца да даярак, заатэхнікаў, кіраўнікоў калгасаў і

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

# Выстаўка друку Беларускай ССР

У Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя Ул. Леніна адкрыта выстаўка друку Беларускай ССР за 1960—1961 гг. У сталіцы рэспублікі цяпер працуе рад выдавецтваў. На выстаўцы экспануюцца кнігі, выпушчаныя Дзяржаўным выдавецтвам БССР у 1960—1961 гг. Сярод іх — «Пісьмы працоўных Беларусі Ул. І. Леніну», навуковыя працы па розных галінах прамысловасці, сельскай гаспадаркі, брашуры аб вопыце работы наватараў і перадавікоў вытворчасці, мастацкая і крытычная літаратура на беларускай і рускай мовах, літаратура народаў СССР і замежных пісьменнікаў у перакладзе на беларускую мову, кнігі па мастацтву.

Многа кніг, метадычнай літаратуры і падручнікаў выпусціла за мінулы год Вучэбна-педагагічнае выдавецтва рэспублікі. Выдавецтвы Акадэміі навук БССР, Акадэміі сельскагаспадарчых навук рэспублікі, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта апублікавалі рад работ па філасофіі, эканоміцы, гісторыі, фізіцы, матэматыцы, біялогіі, медыцыне, энергетыцы, мовазнаўству, мастацтвазнаўству, агратэхніцы, паляводству, аўтаматызацыі і механізацыі вытворчасці.

Вялікае месца адведзена паказу выданняў Рэспубліканскага таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў. Наведвальнікі могуць пазнаёміцца таксама з газетамі і часопісамі, якія выходзяць у Мінску, у абласных і раённых цэнтрах, на прамысловых прадпрыемствах, у навучальных установах, калгасах і саўгасах рэспублікі.

У 1960 г. у Беларускай ССР было выдадзена 1602 назвы кніг тыражом у 14 230 тысяч экземпляраў.

(БЕЛТА).

# Узнагароджанне работнікаў культуры

Многія гады работнікі культуры і мастацтва Беларусі вядуць работу па культурнаму шэфству над узброенымі сіламі СССР. Толькі ў 1960 г. у воінскіх часцях і падраздзяленнях адбылося звыш васьмі тысяч шэфскіх спектакляў, канцэртаў, творчых справаздач, культпаходаў, канцэртаў-лекцый, семінараў і экскурсій.

Шэфская дзейнасць работнікаў культуры і мастацтва адзначана ў пастанове ЦК прафсаюза работнікаў культуры СССР. Беларускі рэспубліканскі камітэт прафсаюза за ваенна-шэфскую работу ў 1960 г. узнагароджаны Пераходным Чырвоным сцягам ЦК прафсаюза.

Трыццаць шэсць актывістаў ваенна-шэфскай работы ўзнагароджаны нагруднымі знакамі «Выдатнік культурнага шэфства над Узброенымі сіламі СССР». Многія работнікі культуры Беларусі атрымаюць Ганаровыя граматы ЦК прафсаюза работнікаў культуры, палітупраўлення БВА і Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры.

(БЕЛТА).

# НЕЛЬГА МІРЫЦЦА З СЯРЭДНІМ УЗРОЎНЕМ

### З КАНФЕРЭНЦЫІ БЕЛАРУСКІХ КІНАРАБОТНІКАЎ

У канцы красавіка адбылася творчая канферэнцыя работнікаў беларускай кінематаграфіі.

З дакладам аб выніках нарады актыву кінематаграфістаў СССР выступіў міністр культуры БССР **Р. Я. Кісялёў.** Дакладчык паставіў перад работнікамі беларускай кінематаграфіі задачы рэзкага павышэння ідэйна-мастацкай якасці фільмаў і паляпшэння іх вытворчасці.

Удзельнікі канферэнцыі заслухалі таксама садаклады: «Фільмы студыі «Беларусьфільм» за 1960 г.» **(Ф. Бондарава)**, «Выяўленчае майстэрства ў беларускіх фільмах» **(Г. Удавенка)**, «Музычнае афармленне карцін «Беларусьфільм» **(І. Нісневіч).**

Даклад і садаклады выклікалі ажыўлены абмен думкамі. Многія адзначалі ў сваіх выступленнях, што студыя «Беларусьфільм» знізіла за апошні час патрабавальнасць у працы.

Найбольш падрабязна і грунтоўна гаварыў аб гэтым крытык **Р. Юрэнеў,** які прыехаў на канферэнцыю ў складзе дэлегацыі кінаработнікаў Масквы. Ён зазначыў, што студыя «Беларусьфільм» прымірылася з сярэднім узроўнем сваіх карцін. Некаторыя фільмы не адпавядаюць высокім патрабаванням да савецкай кінематаграфіі. Асаблівае незадавальненне грамадскасці і гледачоў выклікаў фільм «Веснавыя навальніцы» М. Фігуроўскага. З кінакарцін мінулага года найбольш удалай Р. Юрэнеў лічыць «Наперадзе — круты паварот» (сцэнарый А. Маўзона, рэжысёр Р. Віктараў), тэма якой даволі цікава вырашана аўтарам, рэжысёрам і акцёрамі.

Мог быць лепшым фільм «Чалавек не здаецца» (сцэнарый І. Стаднюка, рэжысёр І. Шульман), каб студыя і рэжысёр з большым даверам паставіліся да першапачатковага варыянта сцэнарыя, ад якога, на жаль, засталася толькі аздобленая дэтэктывам гісторыя з выратаваннем сцяга.

Цікавая, на думку Р. Юрэнева, была задума стварыць фільм з цыкла навел аб беларускіх камсамольцах, пачынаючы ад грамадзянскай вайны і канчаючы нашымі днямі. Але гэтая спроба не завяршылася поспехам, бо з чатырох навел толькі адна мела больш-менш закончаны сцэнарый, напісаны па апавяданню А. Ісбаха. Астатнія ж напісаны без пэўнай думкі і неабходнага драматургічнага майстэрства, і маладыя рэжысёры, якія былі прызначаны для пастаноўкі гэтых навел, не здолелі стварыць цікавыя фільмы.

У гэтай сувязі Р. Юрэнеў востра ставіць пытанне аб сцэнарнай праблеме. Ён лічыць, што студыя не наладзіла яшчэ плённы кантакт з беларускімі пісьменнікамі, творчасць якіх павінна быць асновай яе работы. У першую чаргу павінны ставіцца фільмы аб жыцці і працы беларускага народа. А ў плане 1961 года з 4—5 запланаваных фільмаў — дзве карціны будуць пра крымскіх і грэчаскіх партызан, у той час, як пра беларускіх партызан студыя сказала яшчэ вельмі мала і, можа, не самае галоўнае.

Дырэктар студыі **Ф. Кукушкін** апраўдваў пастаноўку гэтых кінакарцін тым, што беларускія пісьменнікі быццам мала пішуць для кіно і не забяспечваюць вытворчыя планы студыі. У той жа час Ф. Кукушкін і начальнік сцэнарнага аддзела М. Гарулёў заявілі ў сваіх выступленнях, што больш дваццаці беларускіх пісьменнікаў згадзіліся пісаць сцэнарыі. Выходзіць усё ж, што пісьменнікі хочуць супрацоўнічаць са студыяй, толькі яна марудна і непаваротліва працуе з імі і тым самым сістэматычна ставіць пад пагрозу зрыву свае вытворчыя планы.

Ф. Кукушкін і М. Гарулёў у сваіх выступленнях апраўдвалі слабую работу з беларускімі пісьменнікамі яшчэ і тым, што яны (пісьменнікі) дрэнна ведаюць спецыфіку кінадраматургіі і пакуль не авалодаюць ёю — нельга сур'ёзна спадзявацца на іх дапамогу.

Цяжка пагадзіцца з такой «тэорыяй», якая, дарэчы, даволі шырока бытуе ў творчым калектыве студыі і можа прынесці вялікую шкоду, бо за яе шырмай вельмі лёгка схаваць сваё няўменне працаваць з аўтарамі.

Ніхто не адмаўляе спецыфікі кінамастацтва. Яна ёсць і ёю трэба авалодваць, але не трэба рабіць з яе нейкі жупел. А. Куляшоў, А. Маўзон, А. Кучар не ведалі яшчэ спецыфікі кіно, калі пісалі свае першыя сцэнарыі для студыі. Але «Канстанцін Заслонаў», «Чырвонае лісце», «Гадзіннік спыніўся апоўначы» — лепшыя фільмы за пасляваенныя гады. Справа ў тым, што гэтым пісьменнікам дапамаглі кансультацыі кваліфікаваных сцэнарыстаў, рэжысёраў і рэдактараў. Цяпер жа студыя чамусьці менш памагае аўтарам.

Рэжысёры павінны працаваць са сцэнарыстамі. І вельмі правільна паставіў пытанне ў сваім выступленні **Л. Голуб,** які гаварыў, што рэжысёру трэба шукаць аўтараў і працаваць з імі, а не чакаць, пакуль сцэнарны аддзел прапануе яму гатовы сцэнарый.

На студыі ж, як правіла, рэжысёры знаходзяцца ў прастоі па некалькі гадоў. Так, ужо больш двух год «чакае» сцэнарыя рэжысёр С. Сплашноў, каля года — рэжысёр Р. Віктараў, які пайшоў ужо ў тэатр ставіць спектакль.

Студыя са спакойнай душой адпусціла Р. Віктарава для гэтай пастаноўкі, замест таго, каб прапанаваць яму пашукаць сярод дваццаці беларускіх пісьменнікаў, якія далі заяўкі на сцэнарыі, **свайго** аўтара, **сваю** тэму і працаваць над ёю.

Зразумела, што кожны рэжысёр мае права рабіць заяўкі на тую ці іншую тэму, але студыя павінна каардынаваць іх, узгадняць са сваімі асноўнымі задачамі і накіроўваць увагу рэжысёраў на важныя для беларускай кінематаграфіі тэмы.

А гэтага, як правільна зазначыў у сваім выступленні рэжысёр **П. Васілеўскі,** на студыі якраз і не хапае. Рэжысёры вельмі мала знаёмыя з беларускай літаратурай, дрэнна ведаюць пісьменнікаў, іх творчасць, таму вымушаны шукаць сабе сцэнарыі дзе заўгодна, толькі не поруч з сабою. П. Васілеўскі правільна таксама сказаў, што справа не ў «спецыфіцы», якою так часта палохаюць аўтараў. Справа ў тым, **што** аўтар прыносіць на студыю. Калі ён прыносіць сапраўды арыгінальны, свежы літаратурны твор, тады слабае веданне спецыфікі не перашкодзіць з'яўленню цікавага фільма. Але горш, калі студыю часам спакушаюць пустыя, надуманыя сцэнарыі, у якіх быццам ёсць «спецыфіка», але няма жыцця і мастацтва. Хіба не такія — фільм «Веснавыя навальніцы» ці сцэнарый «Дзень, у які спаўняецца 30 год»?

— Сцэнарый—аснова асноў кінамастацтва, — сказаў драматург **А. Маўзон.** — Але на студыі не адчуваецца глыбокай трывогі з поваду таго, што на наступны год яна не забяспечана сцэнарыямі.

На канферэнцыі востра ставілася пытанне аб падрыхтоўцы кадраў, у першую чаргу — сцэнарыстаў, рэжысёраў і акцёраў. Пра гэта гаварылі навуковыя работнікі Акадэміі навук БССР **Г. Тарасевіч** і **В. Смаль.** Яшчэ з даваенных год Беларуская студыя не мела звычкі рыхтаваць свае кадры і многія гады запрашала работнікаў з іншых студый. Гэтыя ўтрыманцкія тэндэнцыі засталіся і на сённяшні дзень.

Такую ж думку выказаў і маскоўскі кінадраматург **В. Салаўёў,** які спецыяльна пацікавіўся — ці рыхтуе Усесаюзны кінаінстытут кадры для Беларускай студыі. У інстытуце ён знайшоў вельмі мала пасланцоў з Беларусі, у той час, як з іншых рэспублік там вучацца спецыяльна прысланыя групы будучых кінематаграфістаў.

У канферэнцыі прыняў удзел сакратар ЦК КПБ В. Ф. Шаура.

# ПРАСТОР НОВАМУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

саўгасаў. І заўсёды быў адзін і той жа адказ:

— Машынай даярка можа падаіць кароў у некалькі разоў больш, чым рукамі. Накарміць жа і дагледзець такую колькасць жывёлы ёй не пад сілу.

— А чаму кароў павінна карміць менавіта даярка?

— Ёй жа трэба ведаць асаблівасці кожнай каровы, рыхтаваць для яе асабістае «меню».

— А хто для кароў рыхтуе «меню» ўлетку?

Сапраўды, улетку, у час так званага «вялікага малака», статак перадаецца ў рукі пастуха. Ён па сутнасці робіць малако без актыўнага ўдзелу даярак. А ці нельга зрабіць так, каб і зімою даяркі кароў даілі, а іншыя (даглядчыкі) кармілі і даглядалі іх? Можна.

Неяк давялося мне быць на ферме калгаса «Чырвоны сцяг» Рэчыцкага раёна ў час дойкі кароў. У даільную залу адна за другой заходзілі каровы. Яны станавіліся на даільную пляцоўку, а даяркі Люба Забіран і Ганна Бусел увішна падключалі даільныя апараты. Кожная з іх даіла адразу шэсць кароў. Гэта быў своеасаблівы канвеер: адны каровы сыходзілі з пляцоўкі, другія станавіліся на іх месца. Так працягвалася паўтары гадзіны. Ніякай мітусні. Спрактыкаваныя рукі даярак умела рабілі кожную аперацыю. Калі апошняя карова сышла з пляцоўкі, мы звярнуліся да загадчыцы фермы дэпутата Вярхоўнага Савета БССР Любові Піліпаўны Кашкар:

— Колькі кароў падаілі сёння Люба і Ганна?

— 167.

— Хто даглядае і корміць кароў?

— Пастухі, даглядчыкі. Улетку яны пасвяць статак, а зімой кормяць і пояць яго. У нас працуюць тры даглядчыкі.

— А як з надоямі?

Любоў Піліпаўна ўсміхнулася і весела паглядзела на даярак. Яны таксама нечага загадкава ўсміхаліся. Відаць было, што ўсе прыпомнілі штосьці незвычайнае.

— Раней наша ферма займала апошняе месца ў калгасе па надоях, — расказвала загадчыца фермы. — Калі мы вырашылі працаваць па-новаму, многія гаварылі: «Мала давалі каровы малака, а цяпер і зусім перастануць». Яны думалі, што калі даярка сама не будзе даглядаць кароў, то надоі яшчэ больш зменшацца. Атрымалася ж усё наадварот. Цяпер наша ферма трымае першынство па надоях, і малако мы маем самае таннае.

— А як жа быць з «персанальным меню» для кароў?

—Я сама была даяркай і магу сказаць з поўнай адказнасцю: калі ў гаспадарцы даволі кукурузнага сіласу, то тры тысячы літраў малака ад каровы можна атрымаць без усялякіх «меню».

Як тут не ўспомніць словы Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, якія ён нядаўна сказаў на занальнай нарадзе ў Свярдлоўску: «Вучыцеся, таварышы, весці малочную гаспадарку на добрым сіласе, не захапляйцеся толькі рэкордамі. Калі вы ставіце мэту любой цаной надаіць 5—6 тысяч літраў малака ад каровы, то тады карове давядзецца даваць многа канцэнтраваных кармоў, як кажуць, ледзь не шакалад даваць трэба».

У гэтым жа раёне, у саўгасе «Падлессе» даяркай працуе Ніна Пастухова. Яе цяпер ведаюць усе жывёлаводы рэспублікі. Гэта яна першай стала даіць 95 кароў. У яе многа вучаніц і паслядоўніц. Па прыкладу Ніны Пастуховай 93 каровы доіць Надзея Левушкова з саўгаса «Хальч» Веткаўскага раёна. Працуюць па-новаму Соф'я Серакова з саўгаса «Камуна» Уваравіцкага раёна і Мальвіна Агародная з саўгаса «Капаткевічы».

Савецкія інжынеры сканструявалі самыя лепшыя даільныя апараты і пляцоўкі. Нядаўна мы даведаліся аб стварэнні аўтаматычнай кальцавой, ці як яе яшчэ называюць, карусельнай пляцоўкі. Дзве даяркі могуць на ёй абслугоўваць 600 кароў. Прадукцыйнасць працы жывёлаводаў павялічваецца ў 25—30 разоў у параўнанні з ручным даеннем.

Тэхнічны прагрэс заўсёды прыводзіў да ломкі старых норм вытворчасці. Гэта назіраецца цяпер і ў малочнай жывёлагадоўлі. На жаль, працэс гэты ідзе марудна з-за таго, што вельмі жывучая традыцыя: даярка доіць і корміць кароў. Трэба больш рашуча пераходзіць на новыя, прагрэсіўныя метады працы, хутчэй адмаўляцца ад старога.

Ніна Пастухова і яе паслядоўніцы — першыя ластаўкі ў гэтай справе. І перамога будзе за імі. У адной з прамоў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў сказаў: «Трэба добра ўсвядоміць, што будучае за тымі, хто пяройдзе на механізаванае даенне, хто будзе абслугоўваць 100—150 кароў».

* * *

Неўзабаве — чарговы з'езд нашай партыі. Ён узброіць савецкіх людзей новай праграмай будаўніцтва камунізма ў нашай краіне. У гонар з'езду наш народ рыхтуе працоўныя падарункі. Іх будзе тым больш, чым менш застанецца штучных перашкод на дарозе новага.

**Пятро УЦЯНАЎ.**

## За імі стаяць мільёны



**Міхаіл САДАВЯНУ. — Я адношу гэтую высокую ўзнагароду перш за ўсё да барацьбы ўсяго румынскага народа за мір. Не сумняваюся, што ідэі міру перамогуць, бо яны ўсё больш авалодваюць розумамі прагрэсіўных людзей.**



**Антуан Жорж ТАБЕТ. — Мы, ліванскія барацьбіты за мір, будучы бясконца ўдзячнымі Камітэту па міжнародных прэміях за высокую ацэнку нашай міралюбнай дзейнасці, лічым разам з тым, — і гэта я хачу падкрэсліць асабліва, — што прысуджэнне Ленінскай прэміі абавязвае нас узмацніць барацьбу за ліквідацыю ганебнай сістэмы каланіялізму, за ўсеагульнае і кантралюемае раззбраенне, за мір ва ўсім свеце.**



**Астап ДЛУСКІ. — Радасць і гонар напаўняюць сэрца ад усведамлення таго, што Камітэтам па Міжнародных Ленінскіх прэміях за 1960 г. адзначаны таксама польскі рух за мір. Ганаровая ўзнагарода, звязаная з імем настаўніка міжнароднага рабочага класа Ул. І. Леніна, ускладае абавязак яшчэ больш палымяна, яшчэ больш плённа працаваць у імя трыумфу святой справы міру і сацыялізма...**



**Уільям МАРОУ. — Наша мэта — мабілізаваць усю аўстралійскую грамадскую думку супраць падрыхтоўкі новай сусветнай вайны, за поўнае і ўсеагульнае раззбраенне, за мір і дружбу паміж народамі. Міжнародная Ленінская прэмія натхняе мяне і ўсіх маіх сяброў на далейшую барацьбу за мір.**



## Падпісваюцца на творы Леніна

Працоўныя Капыльскага раёна праяўляюць вялікую цікавасць да твораў Уладзіміра Ільіча Леніна. Толькі ў сёлетнім годзе каля ста працоўных раённага цэнтра і іншых населеных пунктаў падпісаліся на поўны Збор твораў. Сярод іх настаўнікі Капыльскай сярэдняй школы, работнікі раённай бальніцы, рабочыя і служачыя райпрамкамбіната, калгаснікі сельгасарцелі імя Ул. І. Леніна і інш.

**М. СЯЎРУК.**

# Каштоўныя старонкі

За апошнія гады ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве выйшлі асобнымі кнігамі ўспаміны актыўных удзельнікаў Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і Вялікай Айчыннай вайны.

Зборнікі «У барацьбе за Кастрычнік у Беларусі і на Заходнім фронце», «У суровыя гады падполля» (успаміны былых членаў КПЗБ, актыўных удзельнікаў рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі), «З гісторыі партызанскага руху ў Беларусі» (1941—1944 гг.) выклікалі глыбокую цікавасць у шырокіх колаў чытачоў. Яшчэ ў даваенныя гады Музей рэвалюцыі БССР нямала зрабіў за 15 год свайго існавання па збіранню шматлікіх мемуараў, дакументаў. У гады часовай акупацыі ён быў разбураны і многія каштоўныя матэрыялы загінулі.

Між тым, у радзе гарадоў краіны створаны музеі рэвалюцыі або філіялы музея Ул. І. Леніна, якія з'яўляюцца арганізацыйным ядром па збіранню матэрыялаў, успамінаў па гісторыі рэвалюцыйнага руху і сацыялістычнага будаўніцтва.

Ці нельга ў нашых умовах ускласці гэтую ролю на калектыў работнікаў Дзяржаўнага музея Айчыннай вайны, тым больш, што ён гэтую функцыю выконвае, і ўдакладніць, у сувязі з гэтым, яго назву як музея рэвалюцыі і Айчыннай вайны?

У абласных цэнтрах і гарадах захоўваць і сістэматызаваць успаміны маглі б краязнаўчыя музеі і бібліятэкі. Ужо цяпер неабходна арганізаваць планамернае і сістэматычнае збіранне, запіс найбольш цікавых успамінаў, узяць іх з архіваў газет і часопісаў і перадаць у музеі ці бібліятэкі.

Не раз выказвалася пажаданне, што дапамагаць у літаратурнай апрацоўцы і запісу каштоўных успамінаў маглі б саюзы пісьменнікаў і журналістаў рэспублікі.

Пад кіраўніцтвам Інстытута гісторыі партыі карысную работу ў гэтай галіне маглі б правесці саветы старых бальшавікоў.

Асабліва каштоўныя ўспаміны таварышаў, якія мелі шчасце бачыць і чуць Уладзіміра Ільіча. Да рэчы прыгадаць, што асобныя з гэтых успамінаў былі ўжо даўно апублікаваны на старонках беларускага друку і цяпер вядомы толькі вузкаму колу. Так, напрыклад, у выдадзеных у снежні 1920 года «Матэрыялах для сталічнай і правінцыяльнай прэсы. Выд. Прэс-бюро пры VIII з'ездзе Саветаў» № 7 была апублікавана карэспандэнцыя тагачаснага рэдактара газеты «Звязда» пад назвай «Тэлеграма ў вёску» пра дэлегата VIII Усерасійскага з'езду Саветаў Мітрафана Пятровіча Мініна. Заметка была напісана непасрэдна ў час работы з'езду і пацвярджала той факт, што Мінін, пра якога ідзе гаворка ў карэспандэнцыі, хоць прозвішча яго не названа, сустракаўся з Леніным. Пазней ужо, са слоў Мініна, быў узноўлены змест яго размовы з Уладзімірам Ільічом.

— Сустрэў я таварыша Леніна неяк пасля пасяджэння. Ленін размаўляў у гэты час з другім таварышам. Я падыйшоў, назваў сябе. Ён адразу павярнуўся да мяне і пачаў уважліва слухаць. Я сказаў Уладзіміру Ільічу, як у нас усё разбурана пасля паноў. Зямля дрэнная і малавата яе.

— Ясна, што ў вас усё разбурана, — адказаў Ленін. — Але калі дружна возьмецеся за працу, дык хутка адбудуецеся і будзеце тады добра жыць. І мы вам паможам. Справа гэта наша агульная.

Пытаўся ў мяне яшчэ пра многае. Таварыскі такі, даступны, вясёлы. Відаць, што вельмі любіць рабочых і сялян. Калі мы скончылі гутарку, таварыш Ленін дастаў кніжку і запісаў маё прозвішча і адрас.

У 1923 годзе Уладзімір Ільіч быў ужо цяжка хворы. Сярод урачоў, якія лячылі таварыша Леніна, быў тагачасны дэкан медыцынскага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, буйны савецкі неўрапатолаг М. В. Кроль. На працягу чэрвеня, ліпеня, жніўня 1923 года ён амаль штодзённа бачыўся з Уладзімірам Ільічом. Успаміны прафесара Кроля (апублікаваныя ў газеце «Звязда» ў 1924 г.) пра гэты перыяд жыцця Уладзіміра Ільіча Леніна чытаюцца з невыказным душэўным болем.

«Пазбаўленне мовы было самай трагічнай з'явай хваробы Уладзіміра Ільіча. Ён усё разумеў, што яму гаварылі, але сам гаварыць не мог...»

Да гэтага часу шырока вядомы ленінскія тэлеграмы, адрасаваныя ў Мінск, Гомель, Віцебск, Магілёў, Оршу, Дрысу, Рагачоў, Жлобін, Мазыр. У апошнім XXXVI ленінскім зборніку побач з іншымі дакументамі ёсць тэлеграма Леніна Саўнаркому Беларусі па пытаннях знешняга гандлю. Нядаўна часопіс «Вопросы истории КПСС» (1960 г., № 5) апублікаваў новыя ленінскія дакументы «Пісьмы ў Міжнароднае Сацыялістычнае Бюро». У адным з пісем, датаваным 25 лютага 1909 г., Ул. І. Ленін просіць дапамагчы бастуючым рабочым гарбарных заводаў Віленскай губерні, сярод якіх былі гарбары Смаргоні.

Трэба прыняць неадкладныя захады да таго, каб кожны з ленінскіх дакументаў, адрасаваных у Беларусь, быў падрабязна вывучаны.

У беларускай Ленініяне знойдуць сваё месца побач з выказваннямі Ул. І. Леніна пра Беларусь успаміны працоўных рэспублікі пра сустрэчы з вялікім правадыром рэвалюцыі, апісанне шматлікіх фактаў усенароднай любві працоўных Беларусі да Уладзіміра Ільіча.

Усё гэта, безумоўна, будзе спрыяць справе выхавання нашай моладзі на слаўных бальшавіцкіх традыцыях.

**С. АШАРОВІЧ.**

# На кніжнай паліцы

У Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшлі з друку і паступілі ў продаж наступныя кнігі:

**А. Вольскі, П. Макаль.** За лясамі дрымучымі. Драматычная паэма ў 3-х дзеях, 6-ці карцінах. Мастак Ю. Карачун. Тыраж 1.600 экз., стар. 132. Цана 19 кап.

**Уладзімір Ляпёшкін.** Ранішнія росы. Вершы. Першая кніжка маладога аўтара. Мастак Г. Клікушын. Тыраж 2.100 экз., стар. 64. Цана 7 кап.

**Георгій Шчарбатаў.** Лясны фронт. У зборнік увайшла аповесць «Шумелі пушчы» — аб барацьбе беларускіх партызан у гады Вялікай Айчыннай вайны, апавяданні і нарысы. Прадмова В. Бурносава. Афармленне А. Кадрусевіча. Тыраж 5 200 экз., стар. 188. Цана 42 кап.

**Міхась Багун.** Выбранае. Склаў і напісаў прадмову Алесь Звонак. Мастак В. Варыёнчык. Тыраж 2 600 экз., стар. 96, Цана 15 кап.

**Аляксей Зарыцкі.** Размова з сэрцам. Вершы і паэмы. Афармленне Н. Шырокава. Тыраж 2 800 экз., стар 340. Цана 78 кап.

**Алесь Бажко.** Карвіга пакідае хутар. Вершаваная аповесць. Мастак П. Калінін. Тыраж 2 600 экз., стар. 64. Цана 13 кап.

**Валянцін Зуб.** **Таямнічы надпіс.** Аповесць. На рускай мове. Аўтарызаваны пераклад з беларускай мовы Ул. Жыжэнкі. Ілюстрацыі Ю. Пучынскага. Вокладка А. Кашкурэвіча. Тыраж 75 тыс. экз., стар. 168. Цана 32 кап.

**А. Гайдар.** Лёс барабаншчыка. Пераклад Я. Казекі. Малюнкі Л. Дубара. Вокладка Е. Лось. Тыраж 5 120 экз., стар. 108. Цана 19 кап.

**Пётр Шасцерыкоў.** Сонечны прамень. Аповесць. На рускай мове. Мастак П. Калінін. Тыраж 10 тыс. экз., стар. 112. Цана 25 кап.

**Д. Фактаровіч.** Беларуская савецкая літаратура за мяжой. Мастак Н. Шырокаў. Тыраж 3 тыс. экз., стар. 92. Цана 16 кап.

**Мікола Лупсякоў.** Прырэчча. Аповесці і апавяданні. Мастак Г. Клікушын. Тыраж 5 650 экз., стар. 192. Цана 45 кап.

**Арон Юдальсон.** Прывітанне. Вершы. Пераклад з яўрэйскай мовы. Прадмова А. Платнера. Мастак І. Карпіновіч. Тыраж 2 тыс. экз., стар. 60. Цана 7 кап.

**Барыс Жыткоў.** Марскія гісторыі. Пераклад С. Міхальчука. Малюнкі Ю. Сандгазіна. Вокладка і тытул А. Лісічнікава. Тыраж 4 175 экз., стар. 188. Цана 43 кап.

## Фестываль сельскагаспадарчых фільмаў

У вёсцы Якімава Слабада Парыцкага раёна праходзіць фестываль сельскагаспадарчых фільмаў. Хлебаробы саўгаса «Шацілкі» прагледзелі фільмы «Аграмінеральныя ўгнаенні на палі», «Магутны рэзерв», «Мічурын». Фестываль працягнецца тры месяцы. За гэты час для хлебаробаў будзе паказана каля дваццаці сельскагаспадарчых фільмаў.

**М. ЖУРА.**

## ЖАДАЕМ ТВОРЧЫХ ПОСПЕХАЎ

**Споўнілася 50 год беларускаму дзіцячаму пісьменніку Пятру Рунцу — аўтару цікавых п'ес-аднаактовак і шматлікіх апавяданняў, сабраных у вядомых зборніках «У веснавыя дні», «Бярозавы конь», «Гіпсавая маска» і інш. У прывітанні прэзідыума СП БССР, пасланым юбіляру, адзначаецца, што гэтыя творы карыстаюцца заслужанай папулярнасцю ў юнага чытача, бо яны даступныя па мастацкай форме, разнастайныя і багатыя па зместу.**

**«Ад усёй душы жадаем табе, дарагі Пятро Мікалаевіч, — гаворыцца ў прывітанні, — добрага здароўя, доўгіх год жыцця, новых творчых поспехаў».**

## МАСТАЦКА-ГРАФІЧНЫ

Новыя задачы, пастаўленыя перад нашай школай у галіне малявання і чарчэння, патрабуюць, каб гэтыя прадметы выкладалі высокакваліфікаваныя спецыялісты, тэарэтычна падрыхтаваныя і практычна вопытныя для правядзення ўрокаў і пазакласнай работы.

Такія спецыялісты рыхтуюцца ў Віцебскім педагагічным інстытуце на новым мастацка-графічным факультэце. Сёлета тут навучаецца 100 чалавек і ў будучым годзе інстытут выпусціць першую групу выкладчыкаў малявання і чарчэння з вышэйшай адукацыяй.

Разнастайная праграма заняткаў будучых настаўнікаў. Яны авалодваюць маляваннем і жывапісам, дэкаратыўным і прыкладным мастацтвам, вывучаюць гісторыю рускага і замежнага выяўленчага мастацтва, чарчэнне, методыку выкладання малявання і чарчэння, педагогіку, псіхалогію, знаёмяцца са скульптурай.

На факультэце ўжо стала традыцыяй праводзіць выстаўкі самастойных работ студэнтаў.

Поспехам карысталася выстаўка плаката, якая была арганізавана ў фае кінатэатра «Спартак».

Факультэт дапамагае школам у эстэтычным выхаванні вучняў. Тут працуе дзіцячая студыя выяўленчага мастацтва, у якой займаюцца школьнікі Віцебска.

**В. ВІНАГРАДАЎ,**
**старшы выкладчык кафедры малюнка і графікі Віцебскага педінстытута.**







**СВЯТКАВАННЕ 1-я МАЯ Ў МІНСКУ**

1. На Цэнтральнай плошчы артысты Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. 2. Танцуюць студэнты Беларускага ўніверсітэта імя Ул. І. Леніна. 3. На плошчы праходзяць фізкультурнікі. 4. Парад войск Мінскага гарнізона. 5. У калоне дэманстрантаў.

